# Маляцікі касцёл пачатку XX ст. (на фота)



У 1787 – 1794 гадах у Маляцічах па заказу магілёўскага архіепіскапа Станіслава Богуш-Сестранцэвіча быў пабудаваны касцёл.

Праект касцёла распрацаваў літоўскі архітэктар Л.Стоук-Гуцявічус. Касцёл уяўляў сабою паменшаную копію сабора св. Пятра ў Рыме.

Будаўніцтвам кіраваў архітэктар Я.Падчашынскі (вучань Л.Стоука-Гуцявічуса).

Касцёл існаваў у канцы XVIII – першай палове XX ст.

ЕКАТЕРИНИНСКИЕ КОНЮШНИ

# Памятник пошёл на туалеты

**Николай МАТОРЕНКО**

**Как указывают Кричевские старожилы, Потемкинский комплекс за годы Советской власти натерпелся столько, сколько, наверное, не натерпелись другие постройки в нашем городе. Интересно то, что при самодержавии всё было хорошо, а большевики и их продолжатели Дворец всё больше разрушали (либо доводили его до обветшалого состояния). Такое отношение, скорее всего, продиктовано ненавистью к частной собственности и неприятию красоты. Но мы этого не понимали, когда в очередной раз местные штукатуры «подмазывали» изъяны в конструкции. Потом, года через два, эта штукатурка отлетала, и Потемкинский дворец снова принимал удручающий вид.**

**Больше всего натерпелась конюшня. Старожилы Кричева говорят, что большевики использовали данную постройку для следующих целей. Сразу после революции она несколько лет стояла без дела, так как лошадей забрали «красные» для армейских нужд («доходных» коней там было только несколько). Когда же революция «кончилась», в конюшни стали свозить разный хлам реввоенсовета. Одно время здесь хранили бураки и картошку. Кстати, из конюшен получилось отменное хранилище, сказались крепкие стены и добротность постройки. Но микроклимат вследствие хранения овощей сделал своё «гнусное» дело – начали подгнивать перекрытия. Большевики, правда, на это не обращали никакого внимания. Через некоторое время овощи там хранить перестали, видимо, коммунисты всё съели. Хранилище опять заполнили хламом, который то привозили, то увозили.**

**Когда пришли немцы, они удивились: как это Советы довели Потемкинский дворец до такого плачевного состояния. После немцев в Потемкинском дворце расположились администрация и спальни школы-интерната (что-то вроде общежития). В конюшнях же хранился хлам, там была подсобка то ли к теплицам, то ли что-то в этом роде. Позже интернат расформировали, а здание передали под непонятно что.**

**Время шло, к власти пришло новое руководство. Наконец, Потемкинский комплекс решили реставрировать. «Смотрящим» за этим делом назначили Сергея Морозова, нынешнего зама председателя райисполкома. Вот тут он и «развернулся». О дворце говорить не будем, а вот к конюшням подъехал бульдозер и попросту всё сломал. «Пожива» была только местным жителям, которые таскали обломки кирпича на собственное строительство – туалетов и отмостку дорожек к ним. «Хороший кирпич», — говорили люди, — «Да, при Советской власти такой не делали». Однако суть в другом. Не доломав конюшни где-то с метр до земли, бульдозер остановился. По нашим данным, это произошло из-за того, что взбунтовавшаяся общественность куда следует «накатала» и пришлось прекратить это, по нашему мнению, варварство.**

**Каков финал данной истории? На месте «екатерининских» конюшен – руины, напоминающие чернобыльский след. Ломать не ломают, а восстанавливать тоже не хотят. На привлечение спонсоров из-за кордона для восстановления комплекса конюшен власть вряд ли пойдёт вообще. Из-за зависти, вероятно. Пусть будет лучше разломано, но это будет нашим, чем будет сияющее, но чьё-то.**

**По нашим данным, имеется, правда, проект (не власти, а частных лиц) восстановления первозданного комплекса. Но он предусматривает снос зданий советской постройки (школы). А это не входит в планы наших властей. Похоже, власти преследуют в таких делах личные выгоды, а не думают о том, что увидят наши потомки через энное количество лет.**

АДКРЫЦЦЁ АРХЕОЛАГАЎ

# Старажытная сталіца радзімічаў

***Апынуліся мы ў Радамлі (вёсцы ў Чавускім раёне Магілёўшчыны) у апошні дзень археалагічных раскопак. Можна нават сказаць – закопак. Бо ў гэты дзень студэнты гістарычнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта якраз закопвалі да наступнага года месца сваёй працы.***

**Яніна МЕЛЬНІКАВА**



*І. Марзалюк з журналістамі*

Пакуль аўтобус калясіў па вёсцы, здавалася, нічога цікавага нас тут не чакае, хоць і ведалі, што едзем на раскопкі старажытнай сталіцы радзімічаў. Звычайныя дамы, школа, крама – ўсё, як у кожным аграгарадку. Але вось на дарозе стаіць чалавек у зялёнай куртцы – Ігар Марзалюк. Археолаг, доктар гістарычных навук.

"Я зараз вам такую прыгажосць пакажу, вачэй не адвесці!" – замест прывітання кажа ён.

Бяжым за ім па дарожцы метраў трыццаць і спачатку нічога цікавага не заўважаем. А Марзалюк ужо "завёўся": "Бачыце, вунь хата стаіць, а раней там была старажытная аптэка, а вось тут – велічны касцёл, а там...".

Гляджу яму ў вочы і разумею: гэта для нас, журналістаў, навокал старыя вясковыя хаткі і горы, Ігар Марзалюк і ягоныя студэнты сапраўды бачаць і аптэку, і касцёл, і замак на ўзвышшы.

"Вы толькі ўявіце сабе, калісці тут быў вялікі для тых часоў горад, які нават Магдэбургскае права меў, — у захапленні распавядае гісторык. – Людзі тут пачалі сяліца паўтары тысячы гадоў таму, а горад быў заснаваны ў Х стагоддзі. Радзімічы ж з'явіліся на стагоддзе раней. Таму цалкам верагодна, што тут быў легендарны Радзім, ад якога і пайшла назва племені".

І зноў бачу вачыма гісторыка жанчын у гарсэтах і скураных ботах (бо, згодна з Магдэбургскім правам, гараджане не маглі хадзіць у плечэным абутку), што ідуць па вуліцах старажытнай Радамлі, вояроў на конях, што пралятаюць на ўсход і на захад, агонь, што тройчы ахопліваў Радамльскі замак.

Да апошняга часу пра Радамлю казалі як пра звычайны помнік гісторыі, але дзякуючы Ігару Марзалюку і ягоным памочнікам сёння стала вядома: малая вёска калісьці была сапраўдным цэнтрам сярэдневечнага жыцця, сталіцай радзімічаў, уваходзіла ў склад Мсціслаўскага княства.

Стаім на Касцельнай гары, насупраць – гара Замкавая. На ёй – крыжы.

"Калісьці тут быў замак, потым на гэтым месцы хавалі вояроў і мясцовую знаць, быць пахаваным тут лічылася за гонар, але час змяніўся. Прыйшлі Саветы, і мясцовы "пралетарыят" разбурыў старажытныя помнікі, выцягнуў з зямлі труны, зняў з нябожчыкаў каштоўнасці і пачаў хаваць тут сваякоў, — працягвае свой аповяд Ігар Марзалюк. – Калі мы пачалі раскопкі, стала відавочным, што пад сучаснымі трунамі з нябожчыкамі месціцца яшчэ колькі старажытных, тых, да якіх не дабраліся савецкія варвары".

Адзін Бог ведае, колькі ўсяго не далічылася гісторыя, "дзякуючы" намаганням Саветаў. Але і сёння пагроза знішчэння скарбаў зямлі беларускай не меншая.

"Калі вы думаеце, што бульдозеры, напрыклад, у Гродна, — гэта найвялікшае зло, што цярпіць археалогія, то вельмі памыляецеся, — кажа Ігар Марзалюк. – Страшнейшыя за ўсялякія бульдозеры – "чорныя" капальнікі. Гэта сапраўдныя драпежнікі, што цягнуць з зямлі ўсё, часта нават не ўяўляючы сабе кошт знаходак".

Адшукаць "чорных капальнікаў", паводле магілёўскага археолага, зусім не складана: "У інтэрнэце колькі заўгодна адмысловых сайтаў, дзе яны абменьваюцца "досведам", раяць адзін аднаму, як пазбегнуць адказнасці, калі іх затрымліваюць, што казаць, дзе і ў каго набыў тую ці іншую рэч. Шмат каго з іх можна знайсці і ў клубах нумізматаў".

Дарэчы, да кагорты "чорных капальнікаў" умоўна можна аднесці і мясцовых жыхароў: кожную вясну і восень на сваіх агародах яны знаходзяць "прывітанні" ад гісторыі – старажытныя манеты, кафлю і інш. Часта нават не ведаюць, наколькі іх знаходкі каштоўныя для археолагаў.

Непадалёк ад замчышча – старажытнае капішча з магутным дрэвам.

"Такое дрэва мясцовыя жыхары лічылі сакральным. Яго ніколі не секлі. Да яго прыносілі яхвяры. Да яго ішлі мужчыны, калі мелі праблемы з мужчынскай сілай", — распавядае Ігар Марзалюк.

Пакуль узбіраліся з Марзалюком на ўзвышшы і каціліся ўніз, хлопцы-студэнты засыпалі зямлёй месца раскопак і пачалі збіраць намёты. Усё, у гэтым годзе тут працы не будзе, вернуцца археолагі за новымі адкрыццямі ў Радамлю толькі на наступнае лета. Дай бог, каб за гэты час не наведаліся сюды тыя самыя дзікія капальнікі, што знішчаюць каштоўны гістарычны слой.

ГІСТАРЫЧНАЯ СПАДЧЫНА РЕГІЁНУ

# Пустынский Успенский монастырь

**РАСПОЛОЖЕН в 8 верстах от Мстиславля на правом берегу Ослянки. Основан в 1380 г. родоначальником князей Мстиславских, сыном Ольгерда, князем Симеоном Лугвением. В 1578 г. он отдан был королём Стефаном Баторием архиепископу Полоцкому Феофану, а в 1585 г. перешёл в управление поповского сына Матвея Евпатьевича. В 1596 г. после провозглашения унии монастырь был занят базилианскими монахами и находился в их руках до 1839 г. 15 августа 1839 г. его настоятель иеромонах (впоследствии игумен) Иоанн Косиковский при посещении Полоцка присоединяет братию в недра православия после 238-летнего подчинения униатам – монастырь был сделан снова православным.**

**Три храма: большая соборная каменная церковь Успения Богородицы начата постройкою в 1801 г. на средства благотворителя г. Гайко и окончена в 1808 г., когда была освящена полоцким униатским архиепископом Ираклием Лисовским.**

**2-ая церковь – Рождества Богородицы построена на источнике, где явилась св. икона Богоматери. Внутри церкви – под церковным помостом устроено водовместилище струящегося здесь целебного источника. Построена в 1864 г., освящена архимандритом Николаем.**

**3-ая церковь – покрова Пресвятой Богородицы, теплая, каменная, освящена 1 октября 1865 г. В Успенском храме – патриаршая икона Богоматери.**

**В настоящее время монастырь восстанавливается.**



# Легенда об Онуфриевском монастыре

***Много легенд слышал я об Онуфриевском монастыре, что находится на границе Кричевского и Мстиславского районов. Стоит он, высоко в небо направляя остатки своей величественной красоты. Увы, время и варварство человеческое уничтожают его с каждым днём. Равнодушны люди, равнодушно общество. Но остаётся вера, что Господь Бог увидит всё это и Онуфриевский монастырь вернется к нам красивым, высоким и молодым.***

**Валерий БЫСОВ, фото автора**



*Суждено ли монастырю возродиться?*

С Анатолием Медведевым я работал в редакции райгазеты. И как-то он мне коротко поведал о том, что в детстве, во время войны и после, его бабушка жила рядом с монастырем. И она была вхожа в ту обитель. Анатолий добавил, что рядом была мельница, старая-престарая. И запруда на Черной Натопе было сделана из дуба. Вода реки помогала мельнице молоть зерно.

Всё. Больше он мне ничего не сказал. И сейчас уже не скажет. Умер. А с ним — много интересного. Но недавно я снова услышал легенду об Онуфриевском монастыре. Ехал как-то поездом на Могилев и два товарища в почтенном возрасте сидели рядом и рассказывали друг другу об истории, о Мстиславщине. Видимо, родом из тех мест. Что я услышал от них – легенду или быль? Так никто никому не запретит рассказывать и искать. Ведь легенды и прочее – это народный фольклор. И чем больше его, тем духовно богаче народ…

Там, где сейчас деревня Селец, раньше тоже было селение. Рядом с ним тоже жили люди, это место позднее стали называть Староселье. Деревни Онуфриево вообще не было шесть веков тому назад. Там был глухой непроходимый лес до самого Сожа и вслед за ним. Река Черная Натопа дополняла своими водами течение Сожа. Люди речку запрудили и сделали мельницу. В верхнем селении (сейчас – Селец) жили простые люди.

Среди них многодетная и бедная семья Захара. Жена Степанида родила ему восьмерых детей. Все дети были один под один, а самому малому Иваньке было около пяти лет. Все дети были крещеные.

Крестили их в Мстиславле. А вот младшего окрестить всё никак не удавалось. Захар от восхода и до захода солнца трудился на мельнице. Семья еле-еле сводила концы с концами. Люди за труд давали кто мукой, кто зерном или салом. Выживали. Иванька часто прибегал к отцу на мельницу. Но всегда со старшими братьями и сестрами. Отец и мать не разрешали ему ходить одному. Ведь в последнее время в округе появились дикие собаки и волки. Однажды зимой до смерти загрызли ямщика.

Вот и этим утром, как только взошло солнышко, Иванька и его братья пришли к отцу на мельницу. Пока старшие ходили вдоль берега, собирая щавель, Иванька пошёл в лес. Там росли грибы и он, собирая их, заходил всё глубже и глубже. Уже не было видно мельницы, не слышно криков зовущих его братьев и отца. Иванька искал дорогу к мельнице, блуждал между сосен и елей, берез и кленов. Папоротник резал нему руки и ноги. Иванька шёл долго, пока не устал. Остановился, попил водицы из родника. Отдохнул немного и вновь пошёл искать дорогу домой. Солнце уже клонилось к закату. Темнело. Иванька нагрёб листьев, лёг на них и быстро уснул. Проснулся от холода. Всходило солнце и начинался новый день. Мальчишка встал и пошёл по темному и незнакомому лесу…

В старом и новом селениях люди, услышав о пропаже Иваньки, вышли на поиски. В этих местах люди уважали мельника и его жену с детьми. С утра и до вечера искали мальчика. Прошло три дня, но всё безуспешно. Князь Семён снарядил конных и пеших слуг, и велел искать малыша. С ног сбились все в округе. Пошёл пятый день поисков. Захар исхудал и стал бледным как смерть. Жена Степанида плакала, пока не выплакала все слёзы от горя.

Иванька ел ягоды, всё лицо, руки и ноги ему искусали комары. Он обессилел, лежал под ёлкой и не мог подняться. В то утро, едва взошло солнце, к нему подошёл седой старец. Сел рядом. Попоил мальчика водой, отломил сухарик хлеба. Силой втолкнул ему в рот. Взял на руки Иваньку и понёс. Иванька то открывал глаза, то закрывал их. Старец шёл долго, много отдыхал. Садясь на лесную траву, снова поил мальчика водой.

Наконец обессилевший старец вышел к новому селению, на поляну. В окнах мельницы отражался закат солнца. Старик перешёл кладку и переступил порог мельницы. Взглядом его встретил бородатый мельник. Старец протянул ему малыша. Захар заплакал от радости. Взял несколько лепёшек и протянул старцу в знак благодарности…

Старец уходил, но, остановившись на поляне, обернулся.

— Как зовут тебя? – спросил Захар.

— Онуфрий, — ответил тот и исчез в солнечных розовых лучах.

— А как тебя отблагодарить? – кричал вслед Захар.

— Ты уже отблагодарил. А тебе будет много работы, мельник, и много хороших хлебов…

Вскоре на мельницу приехал князь со свитой. Они и не знали, что мальчик уже нашёлся. Князь был человеком добрым и очень любил детей. Когда Семён увидел обессиленного Иваньку, тут же пригласил своего лекаря. И тот выходил мальчишку. Потом спросил у мельника Захара, кто нашёл его сына. Захар рассказал, как всё было.

— Покажи то место, откуда пришёл и куда ушёл старец?

Захар повёл его на полянку, где появился и потом исчез с лучами солнца старец.

— Это был святой, — так решил князь и все старожилы.

— А как звали того святого, ты спросил?

— Да, он сказал, что его зовут Онуфрий, — ответил счастливый мельник.

Вот на этом месте князь Семен Бунгвен и построил монастырь. И в честь того старца и деревню, и монастырь назвали Онуфриевским. В этом монастыре в 1380 году князь стал крестным отцом Иваньки. Позже он послал Иваньку учиться. Тот вернулся грамотным и женился на родичке князя.

Много загадочного и интересного хранит в своих стенах Онуфриевский монастырь. Если бы только камни могли говорить, как люди. Но, увы, тех людей уже нет. Есть потомки, которые что-то говорят, дополняя историю. И каждая история, легенда и быль интересны…

Но самое интересное то, что когда в новом, построенном князем монастыре крестили Иваньку, в храм зашёл старец. Взял свечечку. Тогда свечки лежали без цены и каждый давал столько, сколько мог. В отличие от сегодняшнего церковного бизнеса. Тогда и икону можно было взять, в том числе и бесплатно…

Шло крещение. Крестным Иваньки был князь, крестной — его помощница по княжеству, красивая Илона. Были дети Захара, жена, сам Захар с друзьями и селянами. Монастырь был полон. Худой, рослый и седовласый старец взял свечку, зажёг её на святом огне. Взглядом встретился с Захаром. Старцу отвели место в переднем ряду. Всё крещение он стоял и молился. Когда закончилось крещение, Захар поспешил к старцу, но он уже исчез. Также внезапно, как и появился. Захар выбежал во двор, но там никого не было…

Прошло ещё несколько лет. В краю, как и обещал старец, были богатые урожаи. Работы у мельника было много и жил он до конца своих дней безбедно, в достатке. Однажды в осенний холодный вечер к нему на мельницу снова пришёл тот старец по имени Онуфрий. Захар был один, угостил его хлебом и молоком. Старец был бледным и почти безжизненным. Он сказал Захару:

— Добрый мельник, завтра я умру. Моё тело увидишь на траве, ближе к речке. Похороните меня на кладбище, рядом с монастырем и наденьте вот эту рубашку… И старец оставил льняную рубаху, длинную такую. И ещё новые лапти.

Хоронили Онуфрия старым и новым селениями. На похоронах был князь Семён, сын Иванька, все дети и жена Захара. Как и просил Онуфрий, похоронили его на могилках возле монастыря. Но перед этим покойного отпели в самом монастыре. Захар рассказал князю и Иваньке про Онуфрия, как спас он сына, как принёс из лесу…

Идут годы. Превратили в руины большевики храм и кельи при нём. В руинах и кладбище, что было возле монастыря. Здесь, на восточном углу, хоронили священников и их семьи. И уже никто не знает и не найдет могилу Онуфрия. Погибает и сам Онуфриевский монастырь. Из-за равнодушия христиан, митрополита Филарета, епископа Могилевского и Мстиславского Софрония. А равнодушие батюшки большой грех, так написано в Библии, которую они так проповедуют…

И ещё хочу дополнить, что при строительстве Кричевского собора в бывшем концертном зале кинотеатра были найдены кости и черепа. Чтобы всё осталось тайной, останки прикопали под алтарь…

Чтобы не будоражить народ и власть. Ведь ясно, что эти люди были расстреляны в самом Соборе в те годы, когда и был разрушен храм.

Историю переделали, народ обманывали и вся правда о религии, о священниках не дошла.

Правду и историю не любят и сейчас. А ИСТОРИЯ не любит неправды. Иначе – это уже не история…

---

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

**НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ**

На гэтай зямлі  
Нашы продкі жылі,  
Па-людску жылі –  
Свае гнёзды вілі.  
Ім птушкі спявалі  
І кветкі цвілі  
На гэтай  
Нам дадзенай Богам  
ЗЯМЛІ.

На гэтай зямлі  
Мы аднойчы узышлі,  
І ў гэтай зямлі  
Сілу-моц узялі,  
І крылы сцягамі  
Высока ўзнялі  
На гэтай  
Нам дадзенай Богам  
ЗЯМЛІ.

На гэтай зямлі  
Нашым праўнукам жыць  
І кожнаю пяддзю яе  
Даражыць,  
Каб птушкі спявалі  
І кветкі цвілі  
На гэтай  
Нам дадзенай Богам  
ЗЯМЛІ.



**Марыя ШАЎЧОНАК**

**ЗЯМЛЯ МАЯ**

**Зямля мая! Якое шчасце,  
Што больш няма нідзе такой.  
Што да цябе магу прыпасці,  
Пагладзіць ласкава рукой.**

**Што васілёк твой сінякрылы,  
І шчодрасць спелая суніц  
З такой жывой, гаючай сілай  
Перад сабой схіляюць ніц.**

**Такое усё – не наглядзецца,  
Такое ўсё – што не уявіць,  
Калі б адняць яго ад сэрца,  
То як магло б яно пражыць.**

**І дзе б яму было вучыцца  
Добразычлівасці сяброў,  
Каб не магло не прычасціцца  
Да родных пушчаў і бароў.**



МЕДЫЯ-КАМПАНІЯ

# «ЖУРНАЛІСТЫ ЗА ГІСТАРЫЧНУЮ СПАДЧЫНУ»



*«Экскаватарная рэканструкцыя. Горадня. XXI стагоддзе», аўтар - Зьміцер Вінчэўскі*

## Уганараваныя пераможцы фотаконкурсу «Беларусь, якую мы заўтра не ўбачым»

***БАЖ уганараваў пераможцаў фотаконкурсу «Беларусь, якую мы заўтра не ўбачым», які ладзіўся ў рамках медыя-кампаніі «Журналісты за гістарычную спадчыну».***

КОНКУРС праходзіў з 1 верасня па 15 кастрычніка 2007 года. За мэту ставілася – прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы захавання гістарычнай спадчыны Беларусі. Да ўдзелу запрашаліся супрацоўнікі як недзяржаўных, так і дзяржаўных СМІ. Распачала ўрачыстую цырымонію каардынатар медыя-кампаніі, сябра БАЖ з Наваполацку Яніна Мельнікава, якая прэзентавала фотапрацы пераможцаў і распавяла журналістам пра ход конкурсу, яго ўдзельнікаў і склад журы.

«Хочацца верыць, што дзякуючы гэтаму конкурсу БАЖ адкрыў новыя імёны ў фотажурналістыцы — людзей, якія далей будуць заслугоўваць не толькі нашых сціплых ўзнагарод, але і перамагаць на прэстыжных міжнародных творчых конкурсах», — прывітала пераможцаў старшыня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Жанна Літвіна.

Уладальнік першага месца Зміцер Вінчэўскі з Гродна выказаў надзею, што яго ўдзел у конкурсе паспрые спыненню руйнавання гістарычных помнікаў у яго горадзе. У гутарцы з прэс-службай БАЖ пераможца прызнаўся, што быў упэўнены ў перамозе.

«Гэты здымак быў зроблены да таго, як я даведаўся пра конкурс БАЖ. Але, прачытаўшы яго ўмовы, я адразу вырашыў даслаць сваю працу», — сказаў Зміцер Вінчэўскі.

Дыпломы пераможцам уручыў сябра Журы конкурсу, вядомы беларускі фотажурналіст Уладзімір Багданаў.

Нагадаем: удзел у фотаконкурсе прынялі 35 аўтараў з усіх куткоў Беларусі. Агулам яны прадставілі 87 фотаздымкаў.

*Прэс-служба ГА БАЖ*

НАША ВЕРА

## Веремеевская церковь

В Чериковском районе есть деревня Веремейки. Откуда пошло название? Есть две легенды. По имени деда Веремея, что первым поселился в этих местах. А вторая такая. Начало расти поселение вокруг деда Веремея, а жизнь трудна, никак не налаживается. Земля не родит. То засуха, всё выгорит, то дождь всё заливает. Голод одолевает людей и животных. Собрались люди потолковать под открытым небом: как дальше-то жить. И вдруг глас божий потряс небо и землю – веру имей! Веру имей! Обрадовались люди, что их страдания господь услышал, и всё поняли. Построили церковь, стали молиться и взывать к богу. Жизнь наладилась. Из соседних деревень семьями пошли молиться в церковь. Так зародилась и укрепилась в народе вера в бога.

А на снимке вы видите руины Святопокровской церкви в нашей деревне. Ей более 200 лет. Ещё старожилы помнят, какая она была большая и красивая, с двумя входами. Это был истинный храм для души верующего народа. В выходные и праздники народ шёл толпами.

А ещё есть легенда, что архитекторы перепутали чертежи церквей. Могилёвскую построили в Веремейках, Веремеевскую – в Могилёве, что на площади Орджоникидзе. Красивая, она и сейчас там стоит. А наша была ещё краше в годы богоборчества при советской власти. Разрушив храмы, людей лишили веры в бога. С потерей веры в бога, люди потеряли совесть, веру в правду, добро и справедливость. Теперь многие поняли, что всё надо начинать сначала.

*Записала Людмила Шарабурка*



## Няма такой прафесіі — археолаг

**Сяргей БУДКІН, «Радыё Рацыя»**

**ПРАФЕСІЯ археолага ва ўсім свеце лічыцца даволі прэстыжнай. Спецыялістаў у гэтай галіне рыхтуюць вядучыя ўніверсітэты па ўсім свеце. Рыхтавалі да раскопак і даследаванняў у гэтай галіне і ў СССР – асабліва славіліся кафедры археалогіі Ленінградскага і Маскоўскага універсітэтаў. А вось у сённяшняй Беларусі такой прафесіі папросту няма – археолагаў не выпускае ніводная вну, а ў пераліку прафесій слова «археолаг» адсутнічае.**



Алег Трусаў (на фота)– першы выпускнік кафедры археалогіі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, які ён скончыў 31 год таму. Пасля вучобы спадар Трусаў 14 год працаваў загадчыкам аддзела навуковых даследаванняў у рэстаўрацыйным інстытуце. На меркаванне навукоўца, якраз на той час прыпаў росквіт беларускай археалогіі, якая дасягнула еўрапейскіх паказнікаў.

У наш час на меркаванне Алега Трусава ўсё выглядае інакш:

- Цяпер уладам гэтая сфера да лямпачкі, яны ёй не займаюцца. І ў нас – поўны занапад археалагічнай навукі. Я ніколі не думаў, што дажыву да такога.

Цяпер Алег Трусаў выкладае ў Беларускім універсітэце культуры прадмет «Гісторыя археалогіі», але яго вучні ідуць працаваць у музеі ды архівы, толькі адзін студэнт за 15 год выкладання пайшоў непасрэдна ў археалогію:

- Перад тым, як рабіць факультэт, трэба на гістфаках стварыць спецыяльнасць «археалогія». У нас па сённяшні дзень няма дыпломаў, дзе было бы запісана «спецыяльнасць – археолаг». Вось я скончаў кафедру археалогіі, але ў дыпломе ў мяне ўсё роўна было запісана «выкладчык гісторыі і грамадазнаўства». Сітуацыя па сённяшні дзень не змянілася.

Мікола Крывальцэвіч ужо 20 год працуе ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук. Менавіта ён у 88-м годзе быў навуковым экспертам пры раскопках у Курапатах, а потым заснаваў таварыства «Мартыралог Беларусі». Знаны беларускі археолаг, які справіў на днях сваё 50-годдзе, таксама ўпэўнены, што гэтая навука мусіць стаць самастойнай:

- Археалогія мусіць існаваць у межах нейкіх установаў, напрыклад, Інстытута гісторыі. Калі быў бы створаны Інстытут археалогіі, то навукоўцы маглі бы самі вырашаць праблемы і былі б зняты шмат якія пытанні, звязаныя з далейшым развіццём археалогіі.

Пры гэтым археалагічных адкрыццяў, падчас нават сенсацыйных, у Беларусі робіцца немала. Мікола Крывальцэвіч тут найперш згадвае пра адкрыццё паселішча позняга палаліту ў Кавальцах пад Гроднам, што зрабіў Віктар Абухоўскі – у Панямонскім рэгіёне гэта першая падобная знаходка. А на месцы стаянкі старажытнага чалавека ў Юравічах Алег Іоў зрабіў новае адкрыццё – цэлы горад пад зямлёй, пра які ніхто дагэтуль не ведаў. Ды і ў самога Міколы Крывальцэвіча спецыя новыя адкрыцці. Ён цяпер аналізуе беларускія пахаванні III-II тысячагоддзяў да нашай эры:

- У сувязі з аналізам гэтых пахаванняў адкрываецца светапогляд людзей таго часу, уся гэтая сістэма і структура іх поглядаў. Я працую якраз над кнігай па старажытнейшых пахавальных абрадах. Думаю пры канцы года зраблю.

Навукоўцы пэўныя – у беларускай археалогіі вельмі шмат нязведанага. Гэта сапраўдная ніша, у якой можна працаваць. Алег Трусаў кажа, што шукаць сапраўды ёсць што.

- Ёсць некаторыя перыяды зусім цмяныя – раннія славяне, напрыклад. А яцвягі!? Ніводнай стаянкі яцвягаў ніхто не знайшоў і па сёння. І не шукае...

Алег Трусаў перакананы, што прафесія археолага – надзвычай патрэбная для Беларусі, таму заклікаў звяртацца пісьмова да міністра адукацыі з просьбай уключыць яе ў агульны пералік прафесій. А попыт на яе будзе, упэўнены навуковец.

САРДЭЧНА ВІНШУЕМ

***Усіх чытачоў "Вольнага горада" з наступаючым Новым годам і святамі Раства Хрыстова! Зычым здароўя, матэрыяльнага дабрабыта, веры ў Свабоду і справядлівасць. Застанемся разам на нашай зямлі. Паверце, разам з вамі вытрымаем усё. Дзякуй усім за падтрымку!***

*Рэдакцыя «ВГ»*


Вольны горад



Рэдактар
Сяргей НЯРОЎНЫ

Заснавальнік і выдавец ІП У. Кудраўцаў
Адрас: 213500 г. Крычаў, вул. Крупскай, 49
тэл/факс 50-350, 58-987
E-mail: gorad@mail.ru

Мнение редакции может не совпадать с позицией авторов писем, лиц, давших интервью, или авторов публикаций. Редакция не несет ответственности за содержание сведений предоставленных редакции в письмах, интервью и т.п. (ответственность несут авторы сведений). Распаўсюджваецца бясплатна. **Наклад 299ас.**

Отпечатано с готовых диапозитивов в типографии ООО «Новая Типография», Россия , Смоленск ул. Бабушкина, 7 214031 заказ № 5201